Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# У ДАПАМОГУ ПАРТВУЧОБЕ

## БЮЛЕТЭНЬ
## АПАД ЦК і МЕНАКА КП(б)Б

## № 1





ВЫДАНЬНЕ ЦК КП(б)Б
МЕНСК — 1928

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*






# У ДАПАМОГУ ПАРТВУЧОБЕ

## БЮЛЕТЭНЬ
## АПАД ЦК і МЕНАКА КП(б)Б

## № 1

ВЫДАНЬНЕ ЦК КП (б) Б

МЕНСК 1928

## АД РЭДАКЦЫІ.

Неабходнасьць выданьня пэрыодычнага кіруючага пропагандысцкага органу насьпела і прызнана ўсімі пропагандыстымі, усімі працаўнікамі нашай школьнай і самаадукацыйнай сеткі партасьветы, усімі агітпроп-працаўнікамі БССР.

Гэтай даўно насьпеўшай патрэбнасьці прызван здаволіць бюлетэнь АПАД ЦК КП(б)Б і Мен. АК КП(б)Б «У дапамогу партвучобе».

Мы ўступілі ў рэконструкцыйны пэрыод, які зьвязан з цэлым шэрагам цяжкасьцяй. Лёзунг XV-га партзьезду аб наступленьні на кулака і нэпмана—на капіталістычныя элемэнты гаспадаркі, значна завастрае клясавую барацьбу, асабліва ў вёсцы. Як заўсёды ў такія пэрыоды, у партыі выпіраюць ухілы ад правільнай Ленінскай лініі. Працягваючы, як і раней, змагацца на два фронты, супроць троцкізму, правага ўхілу і з прымірэнствам да іх, наша партыя завастрае *на даным этапе* асаблівую ўвагу на барацьбе з правым ухілам і прымірэнствам да яго, як найбольш пагражаючым у сучасны момант.

Партвучоба павінна сваечасова адбіваць гэтыя асноўныя задачы партыі; вывучэньне марксыцка-ленінскай тэорыі павінна быць цесна зьвязана з вырашэньнем пытаньняў сучаснага жыцьця, з бягучымі задачамі партыі па ўхіленьні ўсіх цяжкасьцяй, зьвязаных з пэрыодам социялістычнай рэконструкцыі наогул, у прыватнасьці і асабліва ў БССР.

Сваечасовае забясьпячэньне партшкол і гурткоў адпаведнымі праграмамі, мэтод-распрацоўкамі, мясцовым матар'ялам, мэтодычнымі ўказаньнямі, высьвятленьне работы кожнай школы, кожнага гуртка—першая задача бюлетэня.

Асьвятленьне работы камсамольскіх школ і гурткоў, дэлегацкіх сходаў і жаночых гурткоў, дапамога ім мэтадраспрацоўкамі, зьмяшчэньнем адпаведных матар'ялаў, мэтодычнымі ўказаньнямі—другая ня менш важная задача.

Па-трэцяе—з узростам культурна-палітычнага ўзроўню партыйных мас і ўвядзеньнем поўнай для іх дабраахвотнасьці ў партвучобе, павінна таксама ўзрастаць роля і значэньне самаадукацыі ў сыстэме партасьветы. Да гэтага часу самаадукацыя—самае слабае наша зьвяно. Пытаньням самаадукацыі, яе органі-

зацыі, кіраўніцтву, мэтодыцы, вопыту месц будзе зьвернута шмат увагі на старонках бюлетэня.

Па-чацьвертае—важнейшае значэньне для ўзьняцьця якасьці пропагандысцкай работы мае пытаньне аб падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы пропагандыста. Зьвяртаючы ў бюлетэні выстарчальную ўвагу на асьвятленьне пытаньняў работы сэмінара пропагандыстых і іншых форм яго падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі, мы асаблівую ўвагу будзем зьвяртаць на пытаньні падрыхтоўкі да заняткаў, падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі рабочага пропагандыста. Гэта пытаньне вельмі важнае, а разам з гэтым і найбольш цяжкае і складанае. Яго вырашэньню будзе дапамагаць бюлетэнь.

Па-пятае—работа па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы агітатара, а таксама па сыстэматычнай яго падрыхтоўцы да дакладаў, да групавых і індывідуальных гутарак амаль што зусім яшчэ не пачата. Нявыстарчаюча пастаўлена таксама забясьпячэньне партыйнага агітатара неабходным матар'ялам. Забясьпячэньне матар'яламі, пытаньні сыстэматычнай падрыхтоўкі да работы, пэрыодычнай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі агітатара, таксама зоймуць адпаведнае месца ў бюлетэні.

Але ў сапраўднасьці дапамагчы пашырэньню і павышэньню ленінскае вучобы бюлетэнь «У дапамогу партвучобе» будзе мець магчымасьць толькі ў тым выпадку, калі будзе ўстаноўлена самая цесная сувязь паміж рэдакцыяй бюлетэня і кожным кіраўніком школы, гуртка, консультантам-рэцэнзэнтам, кожным агітпроп-працаўніком. У бюлетэні павінна знайсьці адбітак работа кожнай школы, гуртка, сэмінара і г. д., дасягненьняў, недахопаў, цяжкасьцяй у іх працы.

Мы спадзяваемся, што гэты актыўны ўдзел у бюлетэні ўсіх пропагандыстых і агітпроппрацаўнікоў будзе забясьпечан,—і тады задачы, якія пастаўлены нашаму «бюлетэню», будуць вырашаны.

**Рэдакцыя.**

---

**Таварышы прапагандысты, кансультанты-рэцэнзэнты, агітпроппрацаўнікі! пішыце пра вопыт вашай працы ў бюлетэнь „У дапамогу партвучобе“.**

---

## Вывучайце і папулярызуйце пастановы лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б.

### Аб прапрацоўкі рашэньняў пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б.

*(Пастанова сакратарыяту ЦК КП(б) ад 10/XII—28 г.).*

1. Паставіць даклад «аб ітогах лістападаўскага Пленуму ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б на сходах актыву парт. арганізацый.

2. Паставіць даклад «Ітогі лістападаўскага Пленуму ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б» на адчыненых агульных сходах партыйных і комсамольскіх ячэек,—шырока працягваючы на іх рабочых, батракоў, сялян беднякоў, серадняков і рабоча-сялянскую моладзь.

3. У адзінай школе палітграматы правесьці адну дадатковую гутарку на тэму: «Задачы партыі ў перавыбарах саветаў».

Іншыя пытаньні Пленуму ўвязаць з адпаведнымі гутаркамі праграмы шырока скарыстоўваючы матар'ялы пленуму ў гутарках.

4. У савпартшколах і прадметных гуртках, а таксама ў Гомельскай савпартшколе і Камвузе правесьці наступныя дадатковыя заняткі:

1) Пэрспэктывы гаспадарчага будаўніцтва.

2) Аб задачах партыі ў перавыбарах саветаў.

3) Аб барацьбе з ухіламі і з прымірэнцтвамі да іх.

Апрача гэтага, вывучэньне ўсіх рашэньняў пленуму ўвязываць з адпаведнымі дысцыплінамі.

5. Для паглыбленага вывучэньня рашэньняў пленумаў стварыць гурткі з неабхопленых школамі таварышоў на дабраахвотных пачатках, з наступнай праграмай:

1) Пэрспэктывы гаспадарчага будаўніцтва на 1928-29 г. (кантрольныя лічбы, 7-мігадзінны рабочы дзень).

2) Праблема сельскай гаспадаркі.

3) Аб задачах партыі ў перавыбарах саветаў.

4) Асаблівасьці нацскладу БССР і задачы КП(б)Б у вырашэньні нац. пытаньня.

5) Аб барацьбе з ухіламі і з прымірэнцтвам з імі.

6. Ва ўсіх тэхнікумах, рабфаках, вяч. школах для моладзі і дарослых, ва ўсіх вышэйшых навучальных установах правесьці

асобную гутарку аб ітогах Пленумаў і ў далейшым увязаць рашэньні Пленума з адпаведнымі дысцыплінамі.

7. У клюбах, нардамох, хатах-чытальнях правесьці ў бліжэйшы час наступныя тры гутаркі:

1) Бліжэйшыя задачы партыі ў галіне сацыялістычнага будаўніцтва.

2) Прамысловасьць і падняцьце сельскай гаспадаркі.

3) Клясавая барацьба і нацпытаньне.

4) Як павінны ўдзельнічаць працоўныя гораду і вёскі ў перавыбарах саветаў.

8. Наркамасьветы даць дырэктывы ў гэтым напрамку і распрацаваць мэтадычныя ўказаньні.

АПА ЦК распрацаваць мэтадычныя ўказаньні для прапрацоўкі пытаньня Пленуму ў сеці партасьветы.

**Некаторыя мэтодычныя заўвагі.**

1. Для правядзеньня ітогавага дакладу аб лістападаўскіх Пленумах ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, можна карыстацца наступнымі асноўнымі матар'яламі:

а) К итогам ноябрьского Пленума ЦК ВКП(б) (материалы для докладчиков), выданьне—«Московский Рабочий».

б) Рыков—Доклад на Ленинградском и Молотов—доклад на Московском активе—«Правда» № 281, 4 сьнежня.

в) Гамарнік—на пленуме ЦК КП(б)Б, «Зьвязда» № 279 ад 5-га сьнежня.

Апрача гэтага асноўнага матар'ялу, можна скарыстоўваць для гэтага дакладу артыкулы, якія зьмешчаны ў часопісе «Ком. Революция» № 22 за 1928 год.

Для ячэйковых дакладчыкаў «Аб ітогах пленумаў» вельмі мэтазгодна склікаць інструкцыйныя нарады да правядзеньня дакладу.

2. У адзінай школе палітграматы асобная гутарка «Аб задачах партыі ў перавыбарах саветаў, праводзіцца пры дапамозе тэмы програмы, якая зьмешчана ў гэтым бюлетэні АПАД ЦК КП(б)Б. У гэтай гутарцы кіраўнік школы павінен шырока карыстацца бягучым газэтным матар'ялам, а таксама і асабліва фактычным матар'ялам працы савету, у месцы знаходжаньня школы. Вынікам гэтай гутаркі можа зьявіцца выкананьне вучнямі якога-небудзь практычнага заданьня, напрыклад, наказ дэпутатаў у савет, ці хоць вызначэньне мерапрыемстваў для паляпшэньня працы саветаў у якой-небудзь галіне.

Іншыя пытаньні Пленумаў увязваюцца з асобнымі гутаркамі наступным чынам:

а) Пункты з рэзолюцыі лістападаўскага Пленуму ЦК УсеКП(б) «Контрольныя лічбы на 1928-29 г.» з рэзолюцыі Пленуму ЦК КП(б)Б па дакладу т. Гамарніка аб ітогах Пленуму ЦК УсеКП(б), у якіх гаворыцца аб прамысловасьці і рэзолюцыя аб сямігадзін-

ным рабочым дню ўключаецца ў гутарку «Аб задачах партыі ў галіне прамысловасьці».

б) Пункты з рэзолюцыі «Аб контрольных лічбах на 1928-29 г. г.» і з рэзолюцыі «Аб ітогах Пленуму ЦК УсеКП(б) на Пленуме ЦК КП(б)Б», а таксама рэзолюцыя Пленуму ЦК УсеКП(б) «аб працы на вёсцы» па дакладу Паўночна-Каўкаскага краявога камітэту ўключаецца ў гутарку «Аб задачах партыі ў галіне сельскай гаспадаркі».

в) Рэзолюцыя аб рэгуляваньні росту партыі скарыстоўваецца як пры правядзеньні асобных гутарак школы палітграматы і асабліва ўвязваецца з гутаркамі «Асновы партыйнага статуту» і «Барацьба за адзінства партыі».

Па ўсім гэтым тэмам мэтодраспрацоўкі будуць зьмяшчацца ў «Бюлетэні» (па тэме «Аб задачах партыі ў галіне прамысловасьці» гл. стар. бюлетэня).

У дапамогу вывучэньню пытаньняў Пленумаў у вячэрніх савпартшколах, прадметных гурткох, гурткох бягучай політыкі і спэцыяльных—зьмяшчаюцца распрацоўкі ў гэтым № «Бюлетэня» (гл. адпаведныя тэмы).

3. У савпартшколах, прадметных гурткох і гурткох бягучай палітыкі дзе для вывучэньня пастаноў Пленуму вылучаюцца тры заняткі, можна карыстацца ніжэй надрукаванымі праграмамі наступным чынам:

а) «Пэрспэктывы гаспадарчага разьвіцьця на 1928-29 год», праводзіцца па дзьвюм першым тэмам праграмы («індустрыялізацыя і сямігадзінны рабочы дзень» і «праблемы сельскай гаспадаркі»), аб'ядноючы іх у адну тэму.

б) Задачы партыі ў перавыбарчай кампаніі саветаў праводзяцца па трэцяй тэме, зьмешчанай ніжэй праграмы.

в) «Сучасныя праблемы сацыялістычнага будаўніцтва і ўнутры-партыйныя задачы»—праводзіцца па пятай тэме ніжэй зьмешчанай праграмы.

4. У спэцыяльных гурткох, дзе праводзіцца пяць заняткаў, для паглыбленьня вывучэньня Пленумаў, можна карыстацца зьмешчанымі ніжэй праграмамі.

---

## Да прапрацоўкі пастаноў лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б.

*(Праграмы для школьнай і самаадукацыйнай сеткі партасьветы).*

### Тэма 1-ая. Індустрыялізацыя і сямігадзінны рабочы дзень.

Мэта тэмы:

1) Даказаць, што генэральнай лініяй нашай партыі зьяўляецца індустрыялізацыя краіны, што цяжкая індустрыя і вытворчасьць сродкаў вытворчасьці зьяўляецца асноўнай прадпасылкай

для соцыялістычнагаператварэньня ўсёй народнай гаспадаркі ў тым ліку сельск. і што далейшы тэмп індустрыялізацыі ўпіраецца ў вырашэньне задачы значнага падвышэньня тэмпу разьвіцьця сельскай гаспадаркі.

2) Высьвятліць пэрспэктывы індустрыялізацыі і правядзеньня сямігадзіннага рабочага дню, і задачы партыі ў гэтай галіне.

## Плян тэмы:

1. Генэральная лінія партыі—лінія на далейшую індустрыялізацыю—каб дагнаць і перагнаць перадавую тэхніку капіталістычных краін.

2. Неабходнасьць шпаркага тэмпу індустрыялізацыі і важнасьць узмацненьня разьвіцьця цяжкой індустрыі і вытворчасьць сродкаў вытворчасьці.

3. Разьвіцьцё прамысловасьці БССР шляхам скарыстаньня ў першую чаргу мясцовай сыравіны, садзейнічаньне разьвіцьцю дробнай саматужнай коопэрацыі і роля саматужна-прамысловай коопэрацыі ў гэтай справе.

4. Асноўныя паказальнікі дасягненьняў мінулага году ў галіне індустрыялізацыі і сума капітальных укладаў у прамысловасьць СССР і БССР.

5. Небясьпека для ўсяе гаспадаркі СССР—адставаньне вытворчасьці чорнага мэталю, а таксама востры недахоп будаўнічых матар'ялаў.

6. Недастатковасьць якасных паказацеляў мінулага году ў прамысловасьці і неабходнасьць дабіцца рашучага пералому ў бягучым годзе.

7. Пытаньне аб падвышэньні ўдзельнай вагі прамысловасьці ва ўсёй народнай гаспадарцы Беларусі і пашырэньне пролетарскай базы ў БССР.

8. 7-мігадзінны рабочы дзень на падставе шырокага ўцягненьня мас у процэс соцыялістычнага будаўніцтва, як вялізарнай важнасьці. Экономічная проблема навочны доказ адзнакі соцыялістычнага характару савецкай гаспадаркі ад капіталістычнай гаспадаркі.

9. Перажываемыя цяжкасьці і іх сувязь з абвастрэньнем клясавай барацьбы ў горадзе і вёсцы.

## Контрольныя пытаньні:

1. Навошта нам так патрэбны шпаркі тэмп індустрыялізацыі і ўзмацненьне разьвіцьця цяжкой індустрыі?

2. Якое значэньне капітальных затрат у справе індустрыялізацыі і ў справе дасягненьня больш значных якасных паказальнікаў?

3. Якую ролю грае пытаньне скарыстаньня мясцовага сырцу ў справе разьвіцьця прамысловасьці БССР?

4. Чаму сямігадзінны рабочы дзень зьяўляецца паказальнікам рэзкае адзнакі соцыялістычнага характару савецкай сыстэмы гаспадаркі ад капіталістычнай сыстэмы?

5. У чым небясьпека разыходжаньня тэмпаў разьвіцьця прамысловасьці і сельскай гаспадаркі для ўсяе справы індустрыялізацыі?

Літаратура:

1. Аб кантрольных лічбах народнай гаспадаркі за 1928-29 год (газэта «Правда», альбо паасобная брашура п. п. 1, 2, 9, 10, 13, 14, 15).

2. Рыков—Даклад на Ленінградзкім партактыве, разьдзелы—«На путях индустриализации», «Капитальные затраты, себестоимость, рационализация» («Правда» № 281 ад 4 сьнежня 1928 г.).

3. Молотов—Даклад на Маскоўскім партактыве, разьдз. II. «Рацыяналізацыя і рэканструкцыя хазяйства». («Правда» № 281 от 4 дек. 1928 г.).

4. Сталин—Прамова на Лістападаўскім Пленуме ЦК УсеКП(б).

5. Гамарнік—Даклад на Пленуме ЦК КП(б)Б («Зьвязда № 279 ад 5-XII—28 г.).

6. Галадзед—Даклад і рэзалюцыя па дакладу ў Савнаркоме СССР у частцы прамысловасьці.

Максімум:

1. Шэйнін і Пятровіч—«Кантрольныя лічбы народнай гаспадаркі БССР на 1928-29 год «Савецкае будаўніцтва № 10, кастрычнік 1928 г., ст. 17—19, ст. 25, 2-ая табліца, стар. 32 ад слоў «в области промышленного производства», да слоў «госбюджет» на стар. 37.

2. Дырэктывы па пяцігодкі, прынятыя XV зьездам УсеКП(б) у часьці прамысловасьці.

### Тэма 2-ая. Праблемы сельскай гаспадаркі.

Мэта тэмы—даказаць: што 1) сельская гаспадарка сваім нязьмерным адставаньнем у тэмпе ад тэмпу разьвіцьця прамысловасьці стварае пагрозу ўсяму сацыялістычнаму будаўніцтву і па гэтаму павялічэньне тэмпа разьвіцьця сельскай гаспадаркі зьяўляецца цэнтральным пытаньнем гаспадарчага фронту бягучага году.

2) Што ўсе сьцьвярджэньні аб «дэградацыі» сельскай гаспадаркі зьяўляюцца адбіткам кулацкіх настрояў і не адпавядаюць сапраўднаму становішчу, якое выяўляецца ў значным росьце рэканструкцыйных элемэнтаў у сельскай гаспадарцы.

3) Што шляхі ўздыму сельскай гаспадаркі спалучаюцца з сацыялістычнай рэканструкцыяй і па гэтай лініі яны павінны ісьці і ў далейшым (разьвіцьцё саўгасаў, калгасаў, вытворчае каапэраваньне, контрактацыя і г. д.), і што для дасягненьня гэтых мэтаў неабходна захоўваньне клясавай лініі ў вёсцы шляхам

павышэньня актыўнасьці батрацтва і беднаты, узмацненьня іх саюзу з серадняком, на глебе ўзмоцненага наступленьня на кулака.

Плян тэмы:

1. Сельская гаспадарка—сыравінная і харчавая база для індустрыялізацыі, яе надмернае адставаньне ў тэмпе разьвіцьця і стварэньня на гэтай падставе пагрозы для ўсяго сацыялістычнага будаўніцтва.

2. Неправільнасьць і неабаснаванасьць сьцьвярджэньня аб застоі або дэградацыі ў сельскай гаспадарцы і абвяржэньне гэтых сьцьвярджэньняў новымі структурнымі працэсамі ў сельскай гаспадарцы.

3. Узьняцьце тэмпу разьвіцьця сельскай гаспадаркі і ў першую чаргу збожжавай, як адно з цэнтральных пытаньняў усяго гаспадарчага фронту.

4. Узьняцьце вытворчасьці сельскай гаспадаркі БССР і павялічэньня попыту сыравіннай базы для прамысловасьці.

5. Пашырэньне засеўных плошчаў—адна з найважнейшых задач гаспадарчага пляну СССР.

6. Шляхі ўздыму с.-г., масавая работа па ўнядрэньню ў сялянскую гаспадарку агра-і зоо-тэхнічных палепшаньняў і роля коопэрацыі ў гэтым.

7. Задача ўздыму сельскай гаспадаркі і злучэньне яе з сацыялістычнай рэконструкцыяй с.-гаспадаркі (разьвіцьцё калгасаў, саўгасаў, вытворчай коопэрацыі, кантрактацыі і г. д.).

8. Асаблівая важнасьць індустрыялізацыі, калектывізацыі сельскай гаспадаркі ў БССР і задачы КП(б)Б у гэтым напрамку.

9. Неабходнасьць ухіленьня карэнных прычын адставаньня сельскай гаспадаркі і недастатковасьць першых посьпехаў у справе абагульненьня сельска-гаспадарчай вытворчасьці СССР і БССР.

10. Стымуляваньне разьвіцьця бедняцка-серадняцкай сялянскай гаспадаркі (забясьпячэньне вёскі таварамі, у першую чаргу—сродкамі вытворчасьці, рэволюцыйная законнасьць, палітыка сельска-гаспадарчага падатку і інш.).

11. Строгае захаваньне клясавай лініі ў вёсцы і яе ўмовы—падвышэньне актыўнасьці і клясавага згрунтаваньня батрацтва, апора на беднату, узмацненьне наступленьня на кулака і моцны саюз з серадняком.

Контрольныя пытаньні:

1. Чым даказаць неправільнасьць і неўгрунтаванасьць сьцьвярджэньняў аб застоі альбо дэградацыі сельскай гаспадаркі?

2. Чаму мы павінны ўзьняць тэмп разьвіцьця сельскай гаспадаркі? Як гэта зрабіць?

3. Навошта неабходна, каб працэс уздыму сельскай гаспадаркі ішоў галоўным чынам па лініі сацыялістычнай рэканструкцыі і ў чым гэты працэс павінен выражацца?

Літаратура:

1. Аб кантрольных лічбах народнае гаспадаркі на 1928-29 г. у частцы «Сельскай гаспадаркі», п. п. 3, 4, 5, 6, 7, 8, 11, 12.

2. Рыкаў—Даклад на Ленінградзкім партактыве, разьдзел 3-4 «Сельская гаспадарка і зернавая праблема», «Шляхі ўздыму сельскай гаспадаркі». («Правда» № 218 ад 4-XII—28 г.).

3. Молотов—Даклад на Маскоўскім партактыве («Правда» № 281 ад 4-XII—28 г.—«О сельском хозяйстве»).

4. Гамарнік—Даклад на Пленуме ЦК КП(б)Б («Зьвязда» № 279 ад 5-XII—28 г., п. «Аб сельскай гаспадарцы і раб. у вёсцы».

5. Галадзед—Даклад на СНК СССР і рэзалюцыя, у частцы сельскай гаспадаркі.

6. Сталін—Прамова на Пленуме ЦК УсеКП(б) «Зерновая проблема».

Максімум:

1. Дырэктывы аб пяцігадовым пляне, у частцы сельскай гаспадаркі.

2. Шэйнін і Пятровіч—стар. 20—22.

**Тэма 3-яя. «Аб задачах парторганізацый у перавыбарчай кампаніі саветаў».**

Мэта гутаркі: Высьвятліць прычыны абвастрэньня клясавай барацьбы ў горадзе і асабліва на вёсцы пасьля XV партзьезьду і даказаць неабходнасьць асаблівага завастрэньня ўвагі партыі і ўсёй грамадзкасьці да сучаснай кампаніі.

2. Высьвятліць недахопы мінулых выбараў.

3. Дакладна высьвятліць задачы, якія паўстаюць перад партыяй у сувязі з перавыбарамі.

Плян тэмы:

1. Абвастрэньне клясавай барацьбы пасьля пастаноў XV партзьезду.

2. Організацыя адпору наглеючаму кулацтву і барацьба з падкулачнікам.

3. Неабходнасьць далейшага ажыўленьня саветаў; нашыя дасягненьні і недахопы ў гэтым напрамку.

4. Праверка мінулых наказаў і зьмест наказаў на будучае.

5. Барацьба з бюрократызмам і засьмечанасьцю апарату.

6. Паляпшэньне працы выбарчых камісій.

7. Праца з беднатой і батрацтвам; неабходнасьць узмацненьня саюзу пролетарыяту і беднаты з серадняком.

8. Уцягненьне ўсіх грамадзкіх організацый, асабліва прафсаюзы, комсамол і шэфтаварыства ў перавыбарчую кампанію.

9. Пашырэньне ўцягненьня ў перавыбары саветаў і яго склад беднаты, батрацтва і асабліва жанчын.

10. Правядзеньне шырокай савецкай (пролетарскай) дэмократыі і ўзмацненьне партківраўніцтва перавыбарамі.

Контрольныя пытаньні:

1. Чым тлумачыцца павялічэньне політычнай актыўнасьці кулацтва?

2. У чым выражаюцца памылкі мінулай перавыбарчай кампаніі?

3. Чым тлумачыцца бюрократызм у нашым апараце і як яго зьнішчыць?

4. Якія задачы зьнікаюць перад паасобнымі організацыямі (профсаюзы, КСМ, Шэфтаварыствы і інш.) у новай кампаніі?

5. Ад чаго залежыць посьпех у выбарах?

Літаратура:

Даклад тав. Гантмана на Пленуме ЦК КП(б) (газэта «Зьвязда» ад 8 сьнежня г. г. № 282).

Рэзолюцыя па дакладу тав. Гантмана (усе Менскія газэты за 2-е сьнежня № 277).

Даклад тав. Кагановіча на Ўсесаюзнай нарадзе па перавыбарах саветаў (ГИЗ 1928 г., ст. 64). Больш скарочаная («Правда» ад 24-Х—28 г. № 248).

Даклад тав. Баўмана (брашура «К перевыборам Советов», выд. 1928 г.).

## Тэма 4-ая. Асаблівасьці нацыянальнага складу БССР і задачы КП(б)Б у вырашэньні нацыянальнага пытаньня.

Мэта тэмы: а) высьвятліць, якія маюцца асаблівасьці ў нацыянальным складзе БССР, як яны адбіваюцца на агульных пытаньнях социялістычнага будаўніцтва ў СССР;

б) выходзячы з агульных задач партыі па сацыялістычным будаўніцтве ў прыватнасьці і асабліва ў сучасны момант узмоцненага наступленьня на капіталістычныя элемэнты нашай гаспадаркі і абвастрэньня клясавай барацьбы, вызначыць сучасныя задачы КП(б)Б у вырашэньні нацпытаньня.

Плян тэмы: Прыгнечаньне нацыянальнасьцяй у царскай Расіі і ў абкружаючых нас капіталістычных краінах. Немагчымасьць пры капіталізьме, нават пры фармальнай свабодзе і роўнасьці ўсіх нацыянальнасьцяй фактычнага іх вызваленьня. Разьяднаньне рабочай клясы і працоўных мас розных нацыянальнасьцяй, як спосаб утрыманьня ўлады ў руках пануючых кляс. Цкаваньне працоўных аднэй нацыі на другую і распальваньне нацыянальнай варожасьці, як спосаб разьяд-

наньня рабочай клясы і працоўных мас розных нацыянальнасьцяй. Адзінства нацыі—лёзунг буржуазіі для ашуканства рабочай клясы і працоўных мас. Клясавая барацьба ўнутры нацый, разам з інтэрнацыянальнай пролетарскай солідарнасьцю,—аснова марксыцка-ленінскай ідэолёгіі пролетарыяту. Не адзінства нацыі, а адзінства клясы. Дыктатура пролетарыяту, як адзіны шлях сапраўднага вызваленьня нацыянальнасьцяй. СССР—саюз роўнапраўных Рэспублік, бацькаўшчына пролетарыяту і працоўных мас усяго сьвету. БССР—саюз пролетарыяту і працоўных мас усіх нацыянальнасьцяй, насяляючых БССР. Асаблівасьці ў нацыянальным складзе БССР. Правядзеньне нацполітыкі партыі, узмацненьне інтэрнацыянальнага адзінства рабочай клясы і працоўных мас для наступленьня на капіталістычныя элемэнты—струмант соцыялістычнага будаўніцтва.

Беларусізацыя, як адзін з важнейшых спосабаў уцягненьня працоўных мас вёскі ў соцыялістычнае будаўніцтва. Беларусізацыя, як спосаб узмацненьня саюзу пролетарыяту і асноўных мас сялянства. Асноўныя задачы па беларусізацыі і павялічэньні беларускіх кадраў пролетарыяту. Культполітасьветработа на мовах нацменшасьці, як спосаб узмацненьня іх удзелу ў соцыялістычным будаўніцтве. Нацсаветы, нацсуды і абслугоўваньне нацменшасьці на іх мове іншымі ўстановамі. Задачы па пераводу на зямлю яўрэяў і ўцягненьня іх у прамысловасьць.

Антысэмітызм і шовінізм у БССР. Антысэмітызм і шовінізм, як вынік націску кулацтва, буржуазных і дробна-буржуазных элемэнтаў на пролетарыят. Культурна-экономічная адсталасьць краіны і цяжкасьці рэконструктыўнага пэрыоду, як прычына антысэмітызму і шовінізму. Антысэмітызм і шовінізм, як пагроза соцыялістычнаму будаўніцтву і дыктатуры пролетарыяту. Сувязь нашай барацьбы з антысэмітызмам і шовінізмам з узмоцненым наступленьнем на кулака і капіталіста.

Падрыхтоўка вайны супроць СССР, задачы абароны краіны, дыктатура пролетарыяту і барацьба з нацыяналізмам і ўхіламі ў нацыянальным пытаньні.

Сутнасьць правага і левага ўхілу ў нацыянальным пытаньні. Правы ўхіл у нацпытаньні, як разнавіднасьць правага ўхілу наогул. Пытаньне аб пролетарскай і нацыянальнай культуры. Сутнасьць лёзунгу партыі «культура пролетарская па зьместу і нацыянальная па форме». Ажыцьцяўленьне гэтага лёзунгу, як шлях да перамогі над абодвымі ўхіламі. Задачы па разьвіцьцю марксыцка-ленінскай ідэолёгіі і стварэньні марксысцкіх кадраў, асабліва беларускіх.

### Контрольныя пытаньні:

1) Чаму зацікаўлены буржуазія, памешчыкі і кулацтва ў распаўсюджваньні нацыянальнай варожасьці?

2) Дзе карэньні антысэмітызму і шовінізму да Кастрычнікавай рэволюцыі і ў сучасны момант?

3) Чаму пролетарыят працівапастаўляе адзінству нацыі клясавую барацьбу адзінства і інтэрнацыянальную солідарнасьць пролетарыяту?

4) Чаму мы павінны змагацца з правым ухілам у нацыянальным пытаньні?

5) У чым адбіваецца сувязь паміж вырашэньнем асноўных пытаньняў нашага соцыялістычнага будаўніцтва ў сучасны момант (рэконструкцыя, індустрыялізацыя краіны, індустрыялізацыя і колектывізацыя сельскай гаспадаркі, культурная рэволюцыя) і вырашэньнем асноўных задач нацыянальнага пытаньня (разьвіцьцё культуры пролетарскай па зьместу і нацыянальнай па форме, беларусізацыя, работа па інтэрнацыянальнаму выхаваньню і інш.)?

Літаратура:

Рэзолюцыя X Зьезду РКП, разьдз. I «Капіталістычны лад і нацыянальны ўціск» і п. другога разьдзелу «Савецкі лад і нацыянальная свабода» стар. 15—18, 15—25 зборніка пастаноў і рашэньняў УсеКП(б) і КП(б)Б па нац. пытаньню.

Рэзолюцыя Кастрычнікавага Пленуму ЦК КПБ 1925 г., 55—65 ту 6, стар. 28 да 34). Менск. 1926 г.

Даклад і заключнае слова т. Сталіна на XII зьезьдзе партыі.

Крыніцкі. Даклад на Менскім активе. Выдана брашурай Чарг. пытаньні нацпалітыкі КПБ.

Рэзолюцыя Кастрычнікавага Пленуму ЦК КПБ 1925 г., 55—65 Аб нацпалітыцы, таго-ж зборніка.

Кнорын. Аб рашучых «дробязях» у вялікім пытаньні (артыкул зьмешчаны ў свой час у «Зьвязьдзе») увайшоў таксама ў зборнік артыкулаў за «культурную рэволюцыю», Менск. 1928 г., стар. 66—105.

Гамарнік. Даклад на Менскім активе «Зьвязда» ад 5 сьнежня № 279, разьдз. 5, пункт I. Нацполітыка.

Пункт 4 рэзолюцыя аб'яднанага Пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б па дакладу т. Гамарніка. «Зьвязда» № 276, ад 1 сьнежаня.

Стасэвіч. «Бальшавік Беларусі» № 10 за 1928 г.

## Тэма 5-ая. Сучасныя проблемы соцыялістычнага будаўніцтва і ўнутрыпартыйныя задачы.

Мэта тэмы: Высьвятліць: а) паходжаньне, прычыны і карэньні ўзьнікненьня ўхілаў у нашай партыі. Сутнасьць правага і левага ўхілаў. Задачы партыі па барацьбе з гэтымі ўхіламі, асабліва з найбольш небясьпечным у сучасны момант—правым ухілам; б) значэньне рэгуляваньня росту партыі як для перамогі над гэтымі ўхіламі, так і для барацьбы з бюрократызмам і за агульнае паляпшэньне кіраўніцтва партыі ўсёй работай па соцыялістычнаму будаўніцтву ў сучасны момант.

Плян тэмы: Два віда ўхілаў у нашай партыі—правы і левы. Буржуазнае і дробна-буржуазнае абкружэньне, як крыніца абодвых ухілаў. Перааацэнка кулацкай небясьпекі і недаацэнка ролі нашага саюзу з серадняком троцкізмам. Недаацэнка кулацкай небясьпекі і незразумелыя задачы наступленьня барацьбы з капіталістычнымі элемэнтамі ў нашай гаспадарцы правымі ўхілістымі. Звышіндустрыялізацыя троцкістых і рэвізія гэнэральнай лініі партыі на індустрыялізацыю правымі, як аднальковае «ўвільваньне» ад задачы ўхіленьня цяжкасьцяй нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Аднолькавая сутнасьць абодвых ухілаў. Левыя фразы троцкізму і «правая» практыка тых і другіх. Неабходнасьць барацьбы на двух фронтах пры абвастрэньні барацьбы з правым ухілам у сучасны момант. Перамога над правым ухілам, як адна з прадпасылак ухіленьня цяжкасьцяй рэконструктыўнага пэрыоду і пасьпяховага наступленьня на капіталістычныя элемэнты нашай гаспадаркі. Сутнасьць прымірэнцтва і неабходнасьць барацьбы з ім.

Ухілы ад ленінскай лініі ў нацпытаньні і прымірэнцтва з гэтымі ўхіламі, як адабражэньні ўхілаў ад агульнай лініі партыі наогул і прымірэнцтва з гэтымі ўхіламі. Недаацэнка і пераацэнка нацыянальных асаблівасьцяй, як выраз націску вялікадзяржаўнага шовінізму і нацыянал-дэмократызму дробна-буржуазнага абкружэньня, як прычына гэтых ухілаў. Барацьба з нацыянал-дэмократызмам і ажыцьцяўленьне задач па будаўніцтву «культуры пролетарскай па зьместу і нацыянальнай па форме». Самакрытыка і ўнутрыпартыйная дэмократыя. Сувязь барацьбы з ухіламі і за вытрыманую ленінскую лінію партыі з задачай павялічэньня ліку рабочых у партыі. Задачы разгорнутай самакрытыкі, барацьба з бюрократызмам ва ўсіх галінах сыстэмы дыктатуры пролетарыяту і павялічэньне рабочага ядра ў партыі. Ачышчэньне партыі ад чужацкіх элемэнтаў і ўдзел у гэтым беспартыйных мас. Практычныя задачы па вярбоўцы рабочых у партыю.

Контрольныя пытаньні:

1) У чым сутнасьць правага і левага ўхілаў?

2) Чаму трэба цяпер асабліва завострыць увагу на барацьбе з правым ухілам?

3) У чым сутнасьць правага-і левага ўхілаў у нацпытаньні?

4) Якая сувязь паміж ухіламі ў нацпытаньні і ўхіламі ў агульных пытаньнях?

5) Якія задачы павінна партыя вырашыць у культурным будаўніцтве ў сваёй барацьбе з ухіламі і як адаб'ецца павялічэньне рабочага ядра на барацьбе з ухіламі?

Літаратура:

Обращение ЦК ВКП(б) к Московской организации. (Ва ўсіх гэзэтах і асобнымі выданьнямі).

Сталін. Прамова на Пленуме ЦК УсеКП(б). «Правда», 24 лістапада 1928 г., № 273, разьдз. о борьбе с уклонами и примиренчеством с ними».

М. Каравой. О правом уклоне в нашей партыі. («В помощь партучебе» № 5).

Молотов. Итоги Ноябрьского 1928 г. Пленума ЦК, «Правда» ад 4 сьнежня, № 281, разьдз. 3 «Рабочий класс и партия—авангард» и разьдз. 4 «о борьбе с уклонами от ленинской линии».

Рыков. Даклад на ленінгрдзкім актыве, «Правда» ад 4 сьнежня, № 278, разьдз. «К вопросу о внутри-партийном положении».

Рэзолюцыя Пленума ЦК КП(б)Б, п. 3. 4 і 5, «Зьвязда» 1 сьнежня 276. Даклад т. Гамарніка Менскаму актыву, разьдз. V, аб задачах Компартыі Беларусі пункт Г. Д. Е.

Пропагандист 1-2. «Борьба с правой опасностью и примиренчеством, ст. 3—55.

---

**Таварышы прапагандысты, кансультанты-рэцэнзэнты! Ці здавальняюць вас нашы праграмы, якія вы знаходзіце ў іх недахопы, і які характар павінны яны насіць на ваш погляд?**

---

## Матэрыялы па гісторыі КП(б)Б для вывучэньня гісторыі партыі ў вячпартшколах і гуртках.

### Да тэмы «Рэволюцыйная спадчына, атрыманая бальшавікамі».

Сялянская рэформа 1861 году пакінула ў Беларусі вялікую колькасьць сялян без зямлі, шмат сялян папала ў групу малазямельных і ня мела магчымасьці выплачваць сваіх даўгоў, за высока ацэняныя вучасткі зямлі, якія былі куплены імі. Дзеля таго, што ў гэты час, на Беларусі ня была разьвіта прамысловасьць, то большасьць сялян не маглі знайсьці ніякага паратунку ад беднасьці і голаду. Тым больш не магла ісьці гутарка аб якім-бы та ні было павялічэньні гэтых і без таго малых вучасткаў зямлі. Хоць пасьля рэформы сяляне беларускіх губэрань былі надзелены зямлёю ў большым разьмеры, чымся сяляне вялікарускіх губэрань з-за палітычных меркаваньняў, але-ж іх залежнасьць ад памешчыкаў гэтым не выключалася, бо сэрвітуты (паша, выганы, балоты) засталіся за памешчыкамі. Адсутнасьць прамысловасьці і малазямельле прымушала сялян шукаць заработку ў памешчыкаў і лесапрамыслоўцаў, якія іх моцна эксплёатавалі. У Пінскім раёне, напрыклад, рабочыя сплаўшчыкі атрымоўвалі ад 7 да 8 руб. у месяц з харчамі, якія абыходзіліся каля 3-х рублёў—пры рабочым дні, амаль суткі. Другім заняткам сялян была возка і рубка лесу ў лесапрамыслоўцаў. Плата была ў большасьці паштучная і нізкая, якая да таго паменшалася рознымі штрафамі. Але-ж і гэтай работай не маглі займацца ўсе хто меў патрэбу ў ёй. У сярэдзіне 90-х г. г. лішак рабочае сілы, які не знаходзіў сабе ўжытку, дасягаў 46 проц. Зьбядненьне сялян ішло шпаркім тэмпам. У Віцебскай губэрні, напрыклад, у 1885 г. колькасьць бясконных двароў была 10 проц.—у 1900 г.—14 проц. У Магілеўскай губэрні процант гэты ўзрос за гэтыя годы з 8,5 проц. да 11,5 проц. Зразумела, што гэтыя ўмовы выклікалі шэраг неорганізаваных сялянскіх выступленьняў у форме бунтаў, якія большай часткаю прымалі характар зьнішчэньня памешчыцкіх двароў.

У гарадох і мястэчках Беларусі налічвалася больш 30.000 рамесьнікаў, якія падзяляліся на: майстроў, падмайстроў і вучняў. Самай шматлікай групай—18.000—была група майстроў. Апрача гэтага, на фабрыках працавала каля 20.000 рабочых, прадпрыем-

ствы былі дробныя. На кожнай «фабрыцы» працавала па 5—6 чал. Гэта былі бровары, цагельні, красільні, сукнавальні, якія зьмяшчаліся ў адным-двух пакоях і тым больш гэткае прадпрыемства—без машын, здавальняла мінімальныя патрэбнасьці ў таварах большасьць сялянскага насельніцтва Беларусі. Толькі з канца 70-х г. г. на Беларусі ўзьнікае рад тэкстыльных фабрык, галоўным чынам, у Горадзенскай губэрні, пры адначасным павялічэньні рамесьніцкай вытворчасьці, якой прышлося вытрымоўваць з імі моцную конкурэнцыю.

Насельніцтва гарадоў і мястэчак—у большасьці яўрэйскае. Значны процант яго, у 90-х г. г. даходзіўшы да 20 проц., складалі бедныя, у большасьці-ж гэта былі дробныя гандляры, «фактары» і рамесьнікі.

Шырока ўжывалася дзіцячая і жаночая праца. Малалеткі і жанчыны працавалі цукершчыцамі, краўчыхамі, рукавішніцамі, цьвяточніцамі і г. д. Дзяўчаты звычайна працавалі па 14 гадзін у суткі і атрымоўвалі патыднёвую плату ў сярэднім 1 рубель. Становішча рабочых наогул было цяжкое, а рабочых яўрэяў у прыватнасьці, дзякуючы таму, што яны не маглі выяжджаць і паступаць на працу ў іншыя гарады за межы, так званай «чарты аселасьці».

Усе гэтыя ўмовы штурхалі рабочых і сялян на барацьбу за свае вызваленьне і гэта барацьба была накіравана перш за ўсё супроць самаўладзтва, якое стаяла на варце эксплёатацыі рабочых і сялян. У цэнтральнай Расіі ў гэты час пачаў зараджацца народніцкі рух, уплыў якога скора стаў прасачвацца і на Беларусі.

Яшчэ ў час польскага паўстаньня ў 1863 г. асобныя народніцкія гурткі мелі сувязь з польскімі рэволюцыянэрамі. Хоць польскае паўстаньне было патрыятычнай справай польскай буржуазіі і памешчыкаў, сяляне не давераючы паном, яго ня толькі не падтрыммоўвалі, але-ж былі настроены да яго варожа, яно адыграла рэволюцыйную ролю, бо падрывала царскае самаўладзтва. У гэтым было яго прогрэсыўнае рэволюцыйнае значэньне.

Польскія народнікі выпускалі лістоўкі, адозвы, галоўным чынам, да сялян з заклікам іх асазнаць свае становішча і выступіць супроць самаўладзтва. У 70-х г. г. на Беларусі пачынаюць організоўвацца гурткі па самаадукацыі, якія ставяць мэтаю распаўсюджваньне сярод моладзі і студэнцтва рэволюцыйнай ідэі. Першы гурток быў організаваны ў Вільні А. Зундэлевічам і іншымі, у які ўваходзіла выключна яўрэйская моладзь, другі гурток організаваўся навакол польскай Віленскай бібліотэкі і складаўся з польскай моладзі. Абодва гурткі ахаплялі выключна вучнёўскую воладзь Вільні. У яўрэйскім гуртку праводзілася навучаньне розным рамествам, з тым, каб падрыхтаваўшыся пайсьці «ў народ» заклікаць сялянства да барацьбы.

Яўрэйскі гурток, аднак, не замыкаўся ў вузкія нацыянальныя рамкі. Ён прапагандаваў ідэі рэволюцыі і братэрства ўсіх

нацыянальнасьцяй: «Рускі мужык наш брат, для нас, соцыялістых, няма ні нацыянальнасьцяй ні расавага падзелу; усе мы, пражываючыя ў Расіі—расійцы, у нас адны інтарэсы і адны звычаі—мы расійцы. Злучымся-жа ўсе супроць ворагаў у імя роўнасьці і братэрства».

Польскі гурток налічваў да 100 чалавек; палавіна іх былі жанчыны, якія выхоўваліся гуртком у польскім нацыяналістычным духу, каб пасьля весьці барацьбу супроць русыфікацыі края. Гурток распаўсюджваў у масах танную літаратуру і вёў асьветную работу сярод сялян. Ён таксама стаяў за нацыянальную аўтономію Польшчы. Адным з правадыроў гуртка быў Ян Віторг.

У 1875 г. гурткі былі арыштаваны. Паліцыя знайшла ў іх многа рэволюцыйнай літаратуры і зборнік «Вперед», які выдаваўся за мяжой Лаўровым. З організацыяй «Зямлі і волі» і на Беларусі зьяўляецца шэраг яе гурткоў. Праўда, гурткі гэтыя нічым не адрозьніваліся ад іншых гурткоў, організаваных у Расіі, яны таксама складаліся з студэнтаў і вучнёўскай моладзі. У 1875 г. быў організаваны такі гурток і ў Магілеве, які распаўсюджваў свой уплыў, галоўным чынам, на вучнёўскую моладзь. Па ўплыве трох год, у 1878 г. ў Магілеве быў організаваны другі гурток «Зямлі і волі», які складаўся з рускай, польскай і яўрэйскай інтэлігенцыі. Гурток існаваў год, у 1879 г. быў арыштаваны і многія ўдзельнікі яго сасланы ў Сібір. Адным з організатараў і кіраўнікоў гуртка быў Ф. Грыгор'еў. Такі-жа гурток існаваў і ў Горацкім Сельск. Гасп. Інстытуце. Гэты гурток распаўсюджваў побач з нарадавольчаскай і сацыял-дэмократычную літаратуру.

Але-ж самы значны нарадавольчаскі гурток быў у Менску. Стварыў яго тэхнолёг Рабіновіч-Чорны. Гэты гурток распаўсюджваў ужо свой уплыў на Менскіх рабочых.

З іншых народавольчаскіх гурткоў трэба адзначыць гурток адным з заснавальнікаў якога быў нядаўна памёршы ў Менску Парфіяновіч. Калі ў 1879 г. «Зямля і Воля» раскалолася на «Народную Волю» і «Чорны Перадзел», а затым у хуткім часе адбыўся арышт Пецярбурскай друкарні, дзе друкаваўся «Чорный Передел», то гэты Менскі гурток узяў на сябе справу організацыю новай друкарні ў Менску. Друкарня была організавана, ёю было выдана некалькі адозваў, і тры нумары новай газэты «Зерно». У сувязі з гэтым у Менск два разы прыяжджаў Плеханаў. «Черный Перадзел» у хуткім часе спыніў сваё існаваньне, а большасьць яго ўдзельнікаў організавалі за мяжой групу «Вызваленьне працы» («Освобождение труда»), з якой і зьвязаўся названы Менскі гурток. Гэты гурток распаўсюджваў свой уплыў ня толькі на Беларусь, але-ж і па-за яе межамі. З яго вышлі такія рэволюцыянэры, як Гэся Гэльфанд з Мазыра, Грыневіцкі з Навагрудку, Кавалік, Зундэлевіч і шэраг іншых выдатных у народніцкім руху барацьбітоў-рэволюцыянэраў.

Народнікі Беларусі зрабілі тыя-ж памылкі, што і народнікі Расіі, але-ж сваю ролю піянэраў вызваленчага руху, першых

барацьбітоў супроць самаўладзтва яны выканалі з гонарам, мужнасьцю сапраўдных рэволюцыянэраў.

Першай партыяй, якая адказалася ад памылковага народніцкага погляду, што Расія прыдзе да соцыялізму праз аграрную рэволюцыю, была партыя «Пролетарыят», заснованая ў Варшаве. Але-ж гэтая партыя праводзіла работу і ў Заходняй Беларусі. Стварылася яна з соцыялістычных рабочых гурткоў Варшавы ў другой палове 70-х г. г.

У 1882 г. гэтыя гурткі аб'ядналіся ў партыю, пад назвай «Пролетарыят». Партыя выдала адозву, у значнай ступені прасякнутую марксыцкімі ідэямі. У ёй, паміж іншым, гаварылася, што польскі нацыянальны рух прытупіў у масах іх клясавае пачуцьцё і гэта адбілася шкадліва на вызваленчым руху. Але-ж ужо ў 1883 г. партыя пачынае схіляцца да ўжываньня тэрору і наладжвае сувязь з «Народнай Воляй». Тэрор зьявіўся адказнай рэакцыяй на рэпрэсіі царскай улады, бо, у гэтым-жа годзе сярод членаў партыі пачаліся арышты, якія к 1884 г. абяскровілі «Пролетарыят». Ён канчаткова спыніў свае існаваньне ў 1885 г., калі 6 членаў партыі былі пакараны сьмерцю і многа сасланы ў Сібір. Але-ж уплыў партыі «Пролетарыят» сказаўся і пасьля разгрому яе, калі пачалі працаваць іншыя сацыял-дэмократычныя організацыі.

**М. Шапавалаў.**

---

## У дапамогу адзінай школе політграматы.

Заданьне для прапагандыстых.

**Тэма—„Асновы гаспадарчай політыкі партыі“.**

Тэма гутаркі:

Высьвятліць сутнасьць і значэньне ваеннага комунізму, як эканамічнай палітыкі пралетарыяту, вымушанай грамадзянскай вайной і НЭП'у, як асноўнага шляху пабудаваньня сацыялізму.

Плян: (гл. назвы параграфаў гутаркі).

Мэтодычныя ўказаньні:

З мінулых гутарак слухачы адзінай школы ўжо ведаюць, што асноўнай прадпасылкай да пабудовы сацыялізму—гэта заваёва ўлады пролетарыятам, устанаўленьне дыктатуры пралетарыяту, пабудова савецкай дзяржавы, як формы яе.

Дзеля сувязі з мінулай гутаркай трэба пачаць з напамінаньня асноўных яе вывадаў: заваёвы ўлады, канфіскацыі зямлі, рацыяналізацыі буйнай прамысловасьці, банкаў, транспарту. Потым кіраўнік школы знаёміць слухачоў з мэтай чарговай гутаркі і пераходзіць да разбору асноўных разьдзелаў:

1. Ад ваеннага камунізму да НЭП'у — указваючы на спадчыну, атрыманую савецкай уладай ад імпэрыялістычнай вайны, на зруйнаваньне гаспадаркі ў выніку грамадзянскай вайны, трэба тут даказаць, што ваенны комунізм вымушан грамадзянскай вайной і зьяўляецца эканомпалітыкай пролетарскай дыктатуры ў час грамадзянскай вайны. Высьветліўшы такім чынам сутнасьць і значэньне ваеннага комунізму, указваць на тое, што сацыялістычнае будаўніцтва патрабуе іншай эканамічнай палітыкі—Новай Эканомпалітыкі. Сказанае датычыцца ня толькі СССР, але да кожнай пралетарскай рэвалюцыі.

2. Пяць укладаў у гаспадарцы СССР — У гэтым разьдзеле трэба перш-на-перш указаць, што эканомпалітыка пралетарскай дыктатуры, разьлічаная на сацыялістычнае будаўніцтва, павінна прыстасоўваць свае мерапрыемствы да розных гаспадарчых укладаў, якія савецкая ўлада знаходзіць у данай краіне. Пералічваючы гаспадарчыя ўклады ў СССР, трэба высьвятліць

адносіны партыі і кіруемай ёю савецкай улады да кожнага з гэтых укладаў і да адпаведных кляс,—прадстаўнікоў гэтых укладаў, і што перамога сацыялістычнага ўкладу—мэта новай эканомпалітыкі—магчыма толькі пры злучнасьці рабочай клясы і беднаты з серадняком.

3. Камандныя вышыні ў барацьбе за сацыялізм — У сувязі з II-м разьдзелам, тут трэба вызначыць прывадныя пасы, праз якія дыктатура пралетарыяту ўплывае на асобныя ўклады—камандныя вышыні. Пералічваючы гэтыя камандныя вышыні, трэба коратка спыніцца на ролі кожнай вышыні ў паасобку.

4. Капіталізм і барацьба з ім—У гэтым разьдзеле ўвага слухачоў павінна быць завострана на той клясавай барацьбе, якая ідзе ў горадзе і вёсцы, асабліва на абвастрэньне гэтай клясавай барацьбы, пасьля рашэньня XV-га партзьезду аб разгорнутым наступленьні на кулака. У сувязі з гэтым трэба спыніцца на ўхілах у партыі, асабліва на правым ухіле, пасьля гэтага лёгка рабіць агульны вывад адносна сутнасьці НЭП'у (гл. канец гутаркі).

Літаратура:

Кержанцаў — Леонцьеў — «Азбука Ленінізму» (памянёная гутарка, стар. 92—109).

Праграма Камінтэрну—разьдзел IV, п. 4.

Ленін—О продовольственном налоге, т. XVIII, ч. I, мінімум—стар. 186—198, максімум—186—217.

Ленін—Доклад на IV-м конгрессе Коминтерна, том XVIII, ч. II, стр. 81.

Ленін—Аб коопэрацыі—том XVIII, ч. II, мінімум—стар. 133—135, максімум—129—135.

Сталин—Доклад на Ноябрьском Пленуме ЦК ВКП(б) раздел «О борьбе с уклонами и примиренчество с ними», газета «Правда» от 24 ноября № 273.

## Заданьне для прапагандыстых.

### Тэма:—„Задачы партыі ў галіне прамысловасьці“.

Мэта гутаркі—высьвятліць задачы і шляхі разьвіцьця прамысловасьці ў сувязі з палепшаньнем становішча рабочай клясы.

Плян гутаркі: 1. Наша прамысловая адсталасьць і неабходнасьць пераважнага разьвіцьця цяжкай прамысловасьці.

2. Крыніцы індустрыялізацыі.

3. Рэконструкцыя прамысловасьці і пытаньні рацыяналізацыі.

4. Суадносіны паміж разьвіцьцём нашай прамысловасьці і паляпшаньнем становішча рабочай клясы.

Мэтодычныя ўказаньні:

## I. Наша прамысловая адсталасьць і неабходнасьць пераважнага разьвіцьця цяжкой прамысловасьці.

Гэты пункт пляна гутаркі непасрэдна ўвязваецца з тым, што слухаючы ўжо ведаюць аб індустрыялізацыі, як генэральнай лініі партыі на шляху да соцыялізму. Напамінаючы гэты асноўны вывад па данаму пытаньню трэба паказаць (лічбамі) нашу прамысловую адсталасьць, даказаць, што гэта прамысловая адсталасьць не зьяўляецца вынікам беднасьці нашай краіны прыроднымі багацьцямі і адзіны шлях для перамогі над нашай прамысловай адсталасьцю—гэта пераважнае разьвіцьцё цяжкой прамысловасьці. Тут трэба завострыць увагу на поглядах правага ўхілу ў пытаньні аб тэмпе прамысловага разьвіцьця і разьвіцьця цяжкай прамысловасьці і аб неправільнасьці гэтых поглядаў. Гэта частка гутаркі фактычна зьяўляецца паўтарэньнем і падкрэсьліваньнем асноўных вывадаў мінулай гутаркі па данаму пытаньню. У гэтым разьдзеле высьвятляецца таксама роля, значэньне дробнай саматужнай прамысловасьці асабліва ва ўмовах Беларусі. Азнаёмліваючы слухачоў з укладамі ў нашай прамысловасьці і транспорту трэба скарыстоўваць, апрача матар'ялаў падручніка контрольныя лічбы, прынятыя лістападаўскім Пленумам ЦК УсеКП(б) і дакладам Галадзеда ў Саўнаркоме СССР.

## II. Крыніцы індустрыялізацыі.

З гэтага разьдзелу слухачы павінны ўсвоіць адкуль мы бярэм сродкі для індустрыялізацыі краіны: «прыбытак самой дзяржаўнай прамысловасьці», «на зьбіраньні іншых частак народнай гаспадаркі» (пападаючыя ў прамысловасьць адпаведным разьмеркаваньнем бюджэту) і «ашчаджэньні насельніцтва». Тут-жа падкрэсьліць ролю і значэньне рэжыму экономіі, як спосаб павялічэньня матар'яльных крыніц для нашай прамысловасьці.

## III. Рэконструкцыя прамысловасьці і пытаньні рацыяналізацыі.

У непасрэднай сувязі з тым, што слухачы ўжо ведаюць аб аднаўленчым пэрыодзе і рэканструкцыйным (трэба ім напомніць гэта) у гэтым разьдзеле перш за ўсё трэба спыніцца на выніках рэконструкцыі, што яна нясе з сабой. Асабліва тут павінна быць падкрэсьлена зьніжэньне сабекошту, як адзін з асноўных вынікаў рэконструкцыі. Зьвязваючы пытаньне аб зьніжэньні сабекошту з неабходнасьці ўсё большага і большага павялічэньня продукцыйнасьці працы трэба тут перайсьці да высьвятленьня сутнасьці рацыяналізацыі вытворчасьці і сувязі яе з райканструкцыяй, яе ролі і значэньня, яе спосабаў, а таксама розьніцы паміж нашай рацыяналізацыяй і рацыяналізацыяй у капіталістычных краінах. Асабліва завострыць увагу на апошнім пытаньні. Гэта пытаньне высьвятляецца на грунце ня толькі па БССР і Менскай акрузе,

але па магчымасьці па матар'ялам прадпрыемства, пры якім знаходзіцца школа. Ва ўсякім выпадку шляхам прывядзеньня прыкладаў з тых прадпрыемстваў, дзе працуюць слухачы школ.

## IV. Суадносіны паміж разьвіцьцём прамысловасьці і палепшаньнем становішча рабочай клясы.

З мінулага разьдзелу непасрэдна выплывае як задача ўсеўзрастаючага палепшаньня становішча рабочае клясы, так і магчымасьць гэтага палепшаньня, як вынік узьняцьця продукцыйнасьці працы. У сувязі з гэтым трэба тут конкрэтна спыніцца на асноўных прызнаках палепшаньня становішча рабочай клясы ў выніку рэконструкцыі: павялічэньне зарплаты, 7-гадзінны рабочы дзень і паступовае зьнішчэньне беспрацоўя. Скарыстоўваць матар'ял па БССР і па магчымасьці мясцовы.

Літаратура:

Кержанцаў і Леонцеў—«Азбука Ленінізму», «Задачы партыі ў галіне прамысловасьці», 2-е выданьне, стар. 129—149.

О контрольных цифрах народного хозяйства на 1928-29 год, у часьці прамысловасьці.

Рыков. Даклад на Ленінградзкім партактыве, разьдз. «на путях индустриализации», «капитальные затраты, себестоимость, рационализация». «Правда» № 281 ад 4-га сьнежня 1928 г.

Молотов. Даклад на Маскоўскім партактыве, разьдз. 2, «Индустриализации и реконструкции хозяйства», «Правда» № 281, ад 4-га сьнежня.

Гармарнік. Даклад на пленуме ЦК КП(б)Б, разьдз., 5 п. «б» «Прамысловасьць Беларусі». «Зьвязда» № 279 ад 5 сьнежня.

Рэзалюцыя па дакладу Гамарніка на Пленуме ЦК КП(б)Б. «Зьвязда» № 276 ад 1-га сьнежня.

Галадзед. Даклад і рэзалюцыя па дакладу ў Саўнаркоме СССР. У часьці прамысловасьці.

М. Баран. «Пытаньні рацыяналізацыі ў БССР» зборнік «Пытаньні 5-цігадовага пляну і рацыяналізацыі», выд. АПА ЦК КП(б)Б. Менск 1928 г., стар. 21—34.

## Матар'ялы па БССР.

К разьдз. VI. „Асновы гаспадарчай політыкі партыі", § 1. „Азбука Ленінізму". БДВ—1928 г.

К п. „Грамадзянская вайна і разруха" на стар. 92.

Як шло разбурэньне гаспадаркі ў час імпэрыяліст. і грамадзян. вайны.

Імпэрыялістычная і грамадзянская вайна вельмі шкадліва адбіваліся таксама і на гаспадарцы Беларусі. Нават тыя недастатко-

вые лічбы, якія маюцца яскрава малююць нам карціну разрухі як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы. Калі возьмем пэрыод часу за 1913—1916 г. г. (калі гаспадарка Беларусі знаходзілася ў стадыі разьвіцьця—1913 г.), альбо з пачатку стадыі рузрухі—1916 г. *супаставіць* з пэрыодам 1921 г.—1923 г. (калі гаспадарка Беларусі атрымала магчымасьць і пачала аднаўляцца пасьля цэлага дзесяцігодзьдзя разрухі), то атрымаем:

Некаторыя паказальнікі сельскай гаспадаркі.

| | 1913 г. | 1921 г. | Крыніца матар'ялу |
|---|---|---|---|
| 1. Колькасьць засяўной плошчы ў Беларусі (у тыс. дзес.) . . . | 2,101,2 | 1,380,1 | Под редакц. Прищепова „С.-Хоз. Бел. ССР и мероприятия ее восстановления". Изд.—1925 г. |
| | **1916 г.** | **1921 г.** | |
| 2. Рабочая скаціна: Коні . . . . | 757, т. гал. | 702,0 т. гал. | |
| 3. Буйная рагатая скаціна . . . . . | 1,392,3 т. гал. | 1,359,0 т. гал. | |

Некаторыя паказальнікі прамысловасьці.

| | 1913 г. | 1923 г. | Крыніцы матар'ялаў |
|---|---|---|---|
| 1. Харчавая прамысловасьць (у тыс. руб.). | 18,755 | 7,857 | Дадзеныя за 1913 г. ўзяты з „БСЭ" т. 5. |
| 2. Здабываньне і апрацоўка мэталяў (у тыс. р.). | 2,976,0 | 2,315,0 | Дадзеныя за 1923 г. з „Стат. ежегоднік 1923—24 г." выд. 1926 г. |

Да разьдз. VII „Праз НЭП да сацыялізму“. § 3.

Як шло адноўленьне гаспадаркі БССР і пабудаваньня новага.

| | Назва гаспадарчых паказальнікаў | Які-небудзь даваенны год | | 1923-4 | 1924-5 | 1925-6 | 1926-7 | 1927-8 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1913 г. | 1911-15 | | | | | |
| 1. | Апрацоўка дрэва (у тыс. р.). | [1] 5,682,0 | — | [2] 6,997,0 | [2] 8,251,1 | [3] 19,538,4 | [3] 21,401,1 | [3] 23,448,8 |
| 2. | Папяров. прамысл. (у т. р.). | [1] 2,757,0 | — | [2] 2,617,3 | [2] 5,263,9 | [3] 13,930,4 | [3] 13,486,4 | [3] 15,066,6 |
| 3. | Валавая продукцыя цэнзав. прамыслов. ВСНХБ (у т. р.). | [1] 42,860,0 | — | [2] 32,167,3 | [2] 51,311,2 | [3] 77,816,1 | [3] 84,066,4 | [3] 100,657,2 |
| 4. | Валавая продукцыя сельск. гаспадаркі (у тысячах даваен. рубл.) . | — | [5] 248,219,0 | — | [4] 361,000,0 | [4] 374,000,0 | [4] 366,000,0 | [4] 519,000,0 |
| 5. | Засеўная плошча (у тыс. дзесяцінах) . | [4] 2,101,2 | — | [2] 2,287,3 | [2] 2,439,0 | [4] 2,989,0 | [4] 3,123,0 | [4] 3,244,0 |

*Увага*: Крыніцы матар‘ялаў (лічбы 1, 2, 3, 4, 5 азначаюць парадкавы № назвы ніжэй пададзен. матар‘ялу).

1) Большая Советская Энциклопедия т. 5 „Белоруссия“.
2) „Доклад СНК БССР Совнаркому СССР“ Минск. Изд. 1926 г.
3) „Савецкае будаўніцтва“ № 10—1928 г.
4) „XI Зьезд КП(б)Б“ даклад Галадзеда.
5) „Даклад Старшыні СНК БССР т. Галадзеда Саўнаркому СССР і СТО“ „Зьвязда“ № 245 ад 23-X—28 г.

Да разьд. VII, § 1. п. Электрафікацыя, стар. 113. Азб. Ленінізму. БДВ—1928 г.

Роля электрафікацыі ў даваенныя часы на тэрыторыі Беларусі была нязначная ў зьвязку пераважаньня дробнай прамысловасьці і абслугоўвала галоўным чынам комунальныя патрэбнасьці буйных гарадоў: Менск, Віцебск і некалькіх дробных гарадоў.

Усяго да 1910 году налічвалася 4 станцыі агульнай магутнасьцю ў 1700 клвт.

Некаторыя больш моцнага ўзросту паказваюць далейшыя годы і ў 1920 году мы ўжо маем на Беларусі 10 станцый з агульнай магутнасьцю ў 1900 клвт., прычым палова гэтых станцый былі пабудаваны ў пасьля-рэволюцыйныя гады.

Пачынаючы з 1920 году электрабудаўніцтва прымае болей энэргічны тэмп і з 1924 году мы ўжо маем наступнае:

Колькасьць працуючых і магутнасьць электрастанцый БССР.

| Групы станцый | | 1924-5 | 25-26 | 26-27 | 27-28 | 28-29 | Крыніцы матар'ялу |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Гарадзкія . . | А | а) 23 | 26 | 29 | 29 | 29 | „Материалы к 5-тилетнему перспективному плану народного хозяйства БССР на 1927-28 г., 1931-32 г.". Изд. Минск 1927 г. |
| | Б | 3410 | 4830 | 5130 | 7950 | 8760 | |
| Фабрычна-завадзкія . . . | А | 61 | 61 | 56 | 43 | 35 | |
| | Б | 3550 | 3670 | 3600 | 3290 | 5210 | |
| Сельскія . . . | А | 31 | 34 | 42 | 50 | 60 | |
| | Б | 310 | 330 | 380 | 450 | 620 | |

*Увага:* „А" паказвае колькасьць электрастанцый.
„Б" паказвае рабочую магутнасьць у кілёват.

Цікава таксама прасачыць ніжэйпаказаную табліцу, паказваючую рост сум капітальных улажэньняў і выпрацоўка электраэнэргіі за гэтыя самыя гады.

| | 1924-25 | 25-26 | 26-27 | 27-28 | 28-29 | Крыніцы матар'ялу |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Капітальныя ўлажэньні (у т. р.). | 0,880,0 | 1,110,0 | 2.515,0 | 6,250,0 | 7,970,0 | XI Зьезд КП(б)Б. Даклад Галадзеда |
| 2. Выпрацоўка э/э (у міл. клвт.). | 19,2 | 23,0 | 27,1 | 30,8 | 42,7 | |

Па меры эканомічнага ўзмацненьня Беларусі, вывучэньне яе гаспадарчага жыцьця і накапленьне шэрагу матар'ялаў аб рэсурсах раёну ўсё больш і больш выяўляецца неабходнасьць уключэньня электрафікацыі БССР у агульны плян электрафікацыі Савецкага Саюзу. Вырашэньне пытаньня аб пабудове першай у БССР раённай Асінаўскай электрастанцыі (недалёка каля гор. Воршы) зьяўляецца буйным зрушэньнем у справе электрафікацыі БССР.

Першапачатковая магутнасьць раённай Асінаўскай станцыі вызначаецца ў 33.000 клвт. з разьбіўкай на пад-чаргі пабудаваньня: першая пад-чарга—у 22 тыс. клвт. к 1929-30 г. і другая пад-чарга ў 33 тыс. клвт. к 1931-32 году. Адпаведна ўстаноўленай магутнасьці і разгортваньня спажываньня энэргіі разьмер выпрацоўкі вызначаецца ў 1931-32 г. г. у 66 міл. клвт. гадз.

База апалу гэтай станцыі зьяўляецца тарпяныя масывы ў блізі станцыі, якія маюць звыш 150 міл. куб. мэтраў сырой масы, альбо каля 1 міл. тон сухога торпу, колькасьць якога хопіць дзеля забясьпячэньня станцыі апалам пры выпрацоўцы яе, штогодна, каля 100 міл. клвт. гадз. на тэрмін каля 80 год.

Асінаўская станцыя (Асінбуд) зьяўляецца першым зьвяном у сэрыі будучых раённых станцый, якія павінны ахапіць усю БССР і зьвязаць іх як паміж сабой, так і з суседнімі раённымі станцыямі РСФСР.

Да разьдз. VIII, § 1, п. Цяжкая, лёгкая прамысловасьць, транспорт, стар. 131.

Як растуць капітальныя ўкладаньні ў дзяржаўную прамысловасьць БССР.

Рост капітальных укладаньняў у дзярж. прамысловасьць БССР.

| Якая прамысловасьць | | 1925-26 | 1926-27 | 1927-38 | 1928-29 | Крыніцы матар'яла |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дзяржаўная прамысл. (у т. р.) | А | 7,064 | 14,248,9 | 21,902.0 | 27,458,7 | Матар'ял к 5-летн. пэрспэкт. пляну нар. гасп. БССР на 1927-28, 1931-32 г. Выд. Менск 1927 г. |
| | Б | 1,070 | 5,299,0 | 12,344,5 | 17,127,0 | |

*Увага:* „А" паказвае суму ўсіх укладаньняў за гэты год.
„Б" паказвае, якая частка з гэтай сумы пашла на новае будаўніцтва.

Да разьдзелу VIII, § 2, п. „Заработная плата ў СССР", стар. 145.

Сярэдняя памесячная заработ. плата па прамысловасьці ВСНГБ.

| | 1925-6 | 1926-7 | 1927-8 | 1928-9 |
|---|---|---|---|---|
| Абсолютная сума . . | 49,0 | 54,8 | 58,2 | 61,2 |
| У % к мінуламу году | 100 | 111,8 | 106.2 | 105,2 |

*Увага:* Паказальнік матар'ялу:
„Материалы к пятилетнему перспективному плану нар. хоз. БССР на 1927-8, 1931-2. Минск—1927.

## Да ўвагі кіраўнікоў адзінай школы палітграматы на вёсцы *).

### Разьмеркаваньне часу ў адзінай школе палітграматы на вёсцы.

Падручнік. „Азбука Ленінізму“ Керженцава і Леонцьева, выд. II-е Белдзяржвыдавецтва 1928 году.

| Назва гутарак па падручніку | Назва ў праграме адзінай школы палітграматы на вёсцы. | Колькі гутарак | Колькі гадзін на гутарку | |
|---|---|---|---|---|
| | | | На самаст. прапрацоўку матар. | На конфэрэнцы |
| 1. Партыя і кляса. | 1. Клясы, клясавая барацьба і роля партыі . . . | 1 | 2 | 2 |
| 2. Капіталістычная грамадзтва. | 2. Сутнасьць капіталістычнага парадку . . . . | 1 | 3 | 3 |
| 3. Імпэрыялізм—апошняя ступень капіталістычнага ладу. | 3. Таксама . . . . . | 1 | 3 | 3 |
| 4. Пераходны пэрыяд. | 4. Пэрыяд пераходу ад капіталізму да сацыялізму і дыктатура пралетарыяту . . . . . . . | 1 | 2 | 2 |
| 5. Дыктатура буржуазіі, дыктатура пралетарыяту. | 5. Саветы, як форма дыктатуры пралетарыяту . . | 1 | | 2 |
| 6. Асновы гаспадарчай палітыкі партыі. | 6. Сутнасьць НЭП'у . . | 1 | 3 | 2 |
| 7. Праз НЭП да сацыялізму. 8. Задачы партыі ў галіне прамысловасьці. | 7—8. Вастанаўленьне гаспадаркі і будаўніцтва сацыялістычнай індустрыі . . . . . | 1 | 3 | 3 |
| 9. Задачы партыі ў галіне сельскай гаспадаркі. | 9. Задачы сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі . . . . . . | 2 | 3 | 3 |
| | Аграмаджаньне сельскай гаспадаркі (каапэрацыя, сель.-гас. калектывы, савгасы) . . . | | 3 | 3 |
| 10. Нацпытаньне (дадатковая гутарка). | 10—11. Задачы партыі ў галіне культурнага будаўніцтва . . . . | 1 | 5 | 4 |

*) У наступных нумарох бюлетэню будуць зьмяшчацца заданьні для прапагандыстых і дадатковыя матэрыялы для слухачоў адзінай школы палітграматы на вёсцы.

| Назва гутарак па падручніку | Назва ў праграме адзінай школы палітграматы на вёсцы | Колькі гутарак | Колькі гадзін на гутарку | |
|---|---|---|---|---|
| | | | На самаст. прапрацоўку матэр. | На конфэрэнцыі |
| 11. Барацьба за культуру. | Узьнікненьне партыі ў рэвалюцыі 1905 году. | | | |
| 12. Першая рэволюцыя. | 12. Тактыка партыі ў рэволюцыі 1905 году . . . | 1 | 3 | 3 |
| 13. Партыя ў эпоху рэакцыі імпэрыялістычнай вайны. | 13. Тактыка партыі ў эпоху рэакцыі і эпоху імпэрыялістычнай вайны . . . | 1 | 3 | 2 |
| 14. 1917 год (2 рэвалюц.). | 14. Люты і Кастрычнік . . | 1 | 3 | 3 |
| 15. Асновы партыйнага статуту. | 15—16. Арганізацыйныя прынцыпы ЎсеКП(б) і барацьба за адзінства партыі . . . . . | 1 | 5 | 4 |
| 16. Барацьба за адзінства партыі. | | | | |
| 17. Комінтэрн. | 17—18. Комінтэрн і сусьветная рэволюцыя . . | 2 | 3 | — |
| 18. СССР і капітал. сьвет. | | | 3 | — |
| | | 16 | 49 | 43 |

## Прыкладная схэма.

ЗЛУЧЭНЬНЯ 7-га РАЗЬДЗЕЛУ („Праз НЭП да сацыялізму"). і 8-га разьдзелу („Задачы партыі ў галіне прамысловасьці") для самастойнай прапрацоўкі слухачамі.

Падручнік—Азбука Ленінізму. Выд. 2, 1928 г.

З разьдзелу VII, § 1. Індустрыялізацыя—стар. 110—116.
„ § 3. Гаспадарчы рост СССР, стар. 119–123 да І абзаца
З разьдзелу VIII, § 1. Шляхі індустрыялізацыі, стар. 129—139,
§ 2. Рэконструкцыя і г. д., пункт аб беспрацоўі, стар. 148-149.

Калі слухачы ни пасьпеюць самастойна прапрацаваць гэты матар'ял можна апусьціць § 3, разьдзелу VII-га і з § 1, VIII-га разьдзелу стар. 129—131.

**Таварышы прапагандысты!**
**Ці здавальняюць вас нашы заданьні, якія вы знаходзіце недахопы ў іх і які характар яны павінны насіць на ваш погляд?**

*Адказны рэдактар*: Б. Стасевіч.

*Рэдкалегія*: Будзінскі. Гольдзін. Мэерзон. Ратнер. Тамашэускі.

# ЗЬМЕСТ.

